## Розгалас

### ЦІ БУДЗЕМ З ЁЛКАЙ НА СВЯТА?

**Сустрэча Новага года без шампанскага і ёлкі — усё роўна што вяселле без жаніха і нявесты. Як вядома, са святочным напоем завод-вытворца і гандаль абяцалі ўсё ўладзіць найлепшым чынам, а вось як быць з лясной прыгажуняй? Пагадзіцеся, браць сякеру і бегчы напярэдадні Новага года ў бліжэйшы лесапарк — выйсце далёка не лепшае.**

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве лясной гаспадаркі, сёлета ў цэлым па краіне на спецыяльных «плантацыях» чакаюць свайго часу 882,5 тысячы лясных прыгажунь. Аднак, па словах спецыялістаў, у мінулым годзе практычна з таго ж аб'ёму разышлася толькі нязначная частка — 213,2 тысячы дрэўцаў, хаця раней аб'ём продажу складаў да 1 млн. 200 тыс. ёлак. Атрымліваецца, што патрэбы ў адным з галоўных атрыбутаў навагодняга свята Мінлясгас гатоў задаволіць ажно чатыры разы! Зрэшты, як расказалі ў міністэрстве, цяпер жаданне мець у кватэры ёлку прыходзіць у галаву далёка не кожнаму. Састарэлым гэта ўжо не патрэбна, а ў моладзі сваё ўяўленне аб свяце, тым больш, што ў продажы хапае прыгожых штучных вырабаў. Таму калі ў мінулым годзе на мінскія базары было накіравана 60 тысяч ёлак, дык сёлета пакуль заказ атрыманы толькі на 20 тысяч. Мяркуемы кошт на складах (з улікам выдаткаў на нарыхтоўку): дрэўцы да аднаго метра — 8900 рублёў; 1-2 метры — 12.900; 2-3 метры — 18.000; 3-4 метры — 24.400; 4-5 метраў — 29.600 рублёў.

На базарах, зразумела, кошт будзе крыху большы. Дарэчы, кожны жадаючы (прыватнік або прадпрыемства) можа самастойна «здабыць» у лесе зялёную прыгажуню. Пры гэтым лясгасу трэба будзе заплаціць ад 3 да 5 тысяч рублёў.

Зрэшты, не абышлося і без праблем. Як паведаміла прэс-служба Міністэрства гандлю, некаторыя лясгасы Мінскай вобласці патрабуюць абавязковую перадаплату і самавываз ёлак з месцаў нарыхтоўкі. Як пракаменціравалі сітуацыю ў Мінлясгасе, «у кожнага свае праблемы, у тым ліку і фінансавыя», адначасова запэўніўшы, што ўсе пытанні абавязкова будуць вырашаны. Дарэчы, як стала вядома, ужо знойдзена і галоўная ёлка краіны, якая ўпрыгожыць плошчу перад Домам урада.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### САМАМУ МІЛАСЭРНАМУ ДЗЕДУ МАРОЗУ ПАТРАБУЕЦЦА ДАПАМОГА

**Тэатралізаваным спектаклем у Мінскім палацы дзяцей і моладзі 20 снежня пачнецца традыцыйная навагодняя акцыя Беларускага дзіцячага фонду «Нашы сэрцы — хворым дзецям».**

Згодна са статыстыкай, у рэспубліцы больш за 20 тысяч непаўналетніх інвалідаў, 17,5 тысячы маленькіх сірот і прыкладна 16 тысяч дзяцей вымушаны будуць сустракаць Новы год на бальнічным ложку, пад кропельніцай, у гіпсе. Галоўная задача самага міласэрнага Дзеда Мароза — павіншаваць, парадаваць падарункамі кожнае дзіця, якое пакутуе ад цяжкай хваробы, непаўналетняга сірату. Толькі па Мінску выязныя брыгады артыстаў і памочнікаў дзіцячага фонду пабываюць у маленькіх пацыентаў дзіцячых аддзяленняў анкадыспансера, апёкавага аддзялення бальніцы хуткай дапамогі, дзіцячых аддзяленняў нейрахірургіі, дзіцячага хірургічнага цэнтра... Цудоўныя падарункі атрымаюць дзеці ў інвалідных калясках Цэнтральнага і Савецкага раёнаў, дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, а таксама дзеці, інфіцыраваныя ВІЧ-інфекцыяй, і тыя, чые бацькі загінулі, выконваючы інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане... Шматлікія дабрачынныя мерапрыемствы, святочныя канцэрты і спектаклі плануюцца супрацоўнікамі абласных аддзяленняў Дзіцячага фонду ва ўсіх раёнах рэспублікі.

Каласальная праца чакае Дзеда Мароза. Любая дапамога будзе дарэчы. Беларускі дзіцячы фонд разлічвае на падтрымку творчых працоўных калектываў, людзей міласэрных. Дабрачынныя ахвяраванні на падарункі хворым дзецям прымаюцца на рахунак № 3015201460012 у Гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка, код 764.

**Сяргей ПРОТАС.**

### ЗАМЕЖНЫ ПАШПАРТ: ШЛЯХ УЖО АДКРЫТЫ

**Як ужо паведамлялася, новыя агульнаграмадзянскія пашпарты ў зусім недалёкай перспектыве (а дакладна — з пачатку наступнага года) будуць адначасова служыць усім жадаючым і для часовых выездаў за мяжу. Зразумела, пасля адпаведнага афармлення.**

Як стала вядома, разам са зменай знешняга выгляду пашпарта пэўныя змены адбыліся і ў працэдуры яго «пераўтварэння» для паездак за мяжу. У прыватнасці, з заявы на афармленне знікла графа аб блізкіх, пытанні наконт магчымага валодання дзяржаўнымі сакрэтамі, знаходжання пад следствам, абавязкаў перад судом, удзеле ў прызыўной кампаніі. Тэрмін працоўнай дзейнасці скараціўся з 15 да 10 гадоў, знікла месца пад фотаздымак. Знешне сам дакумент набыў нейкую больш цывілізаваную форму. Натуральна, гэта зусім не азначае, што працэдура выезду за мяжу спрасцілася.

Дарэчы, як стала вядома, МЗС, пагранічнікі і мытнікі ўжо атрымалі ўсе неабходныя ў такіх выпадках афіцыяльныя звесткі аб пропуску з пачатку наступнага года за мяжу грамадзян Беларусі з пашпартамі новага ўзору.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ШТО СЁННЯ ЛІЧЫЦЦА РАСКОШАЙ?

**Яшчэ зусім нядаўна, у «добрыя» застойныя часы, усім былі знаёмы тыя рэчы, якія лічыліся раскошай.**

Па-першае, у серванце павінна было быць мора хрусталю, а сцены і падлога павінны былі быць у шыкоўных дыванах. Адным з паказчыкаў сапраўднага багацця была машына, як правіла, «Жыгулі» або «Масквіч». Для школьніка-студэнта тых часоў быў раскошай заморскі магнітафон, купіць марылі джынсы Levi's і красоўкі Adidas. Мяжой усіх фантазій нават для багатых лічылася замежная паездка.

Сёння ж раскошай не лічацца ні імпартныя тэлевізары і відэамагнітафоны, ні СВЧ-печы і шматфункцыянальныя камбайны, а любую замежную «шмотку» можна купіць у кожным прыстойным магазіне. Што ж стала раскошай? Не ведаю. Аднак стала вельмі цяжка знайсці цікавую і дастойную работу. Калі, паводле даных статыстыкі, на сённяшні дзень колькасць зарэгістраваных у рэспубліцы беспрацоўных перавышае 185 тыс. чалавек, то колькасць людзей, якія працуюць няпоўны рабочы час па ініцыятыве адміністрацыі, ужо перасягнула 420-тысячны рубеж. Вось ужо сапраўды: работа цяпер — раскоша.

Але, напэўна, самая вялікая раскоша для моладзі — дзіця. Бадай, толькі самы адважны муж рашыцца ў гэты цяжкі для ўсіх час ускласці на свае плечы і бацькоўскія абавязкі. Пракарміць бы сябе, а калі яшчэ жонку з сынам ці дачкой?.. Вось і адкладваюць з'яўленне першынца маладыя сем'і да лепшых часоў.

Як нам растлумачылі ў дэмаграфічным аддзеле Мінстатыстыкі, спад нараджэння ў краіне стаў назірацца ўжо з канца 80-х гадоў. Калі ў 1983—85 гадах дзяцей нараджалася ў сярэднім па 170 тысяч у год, то ўжо ў 1990 годзе на свет з'явіліся ўсяго 142 тысячы маленькіх. На жаль, пачынаючы з 90-га года ў Беларусі дзяцей нараджаецца ўсё менш і менш. У мінулым годзе нарадзілася 101 тысяча чалавек і, па прагнозах статыстыкаў, сёлета атрымаюць жыццё не больш як 100 тысяч дзяцей. Крыху радуе тое, што працэнт першых дзяцей у маладых сем'ях за гэты час не зменшыўся. Але, адчуўшы сапраўды фінансавы голад, падымаючы на ногі першае дзіця, сем'і ўжо не спяшаюцца заводзіць другое або трэцяе.

Так, сёння наша грамадства падзялілася на багатых і бедных, на людзей з дастаткам і не вельмі. Камусьці раскошай будзе прыстойны абед і цікавая работа. Для іншых штогадовыя турыстычныя круізы становяцца сумным заняткам. Але аказалася, што нават для апошніх нараджэнне другога дзіцяці таксама лічыцца недазвальняльнай раскошай. Няўжо заўтра для нашых дзяцей раскошай будзе брат ці сястра?

**Сяргей КУРКАЧ.**

### МІЛЬЯНЕРАЎ ДНЯМІ ПАБОЛЕЕ. СЯРОД ВЫТВОРЦАЎ-ПРАМЫСЛОЎЦАЎ

**Калі мець на ўвазе грошы (і не толькі ў нацыянальнай валюце), то мільянераў у Беларусі і ва ўсім свеце хапае. Іншая справа — мільянеры па выпуску, дапусцім, вялікагрузнага самазвала альбо нават гадзіннікаў.**

Завод «Электроніка» навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл» днямі стане двухкратным мільянерам па выпуску магнітных пластыкавых картак для айчынных таксафонаў. З чым застаецца павіншаваць не толькі завод «Электроніка», але і Міністэрства сувязі і інфарматыкі, гарадскую тэлефонную станцыю. Усё ж не бясплатна працуюць таксафоны, што доўгі час па розных прычынах спрыялі развіццю дзяржаўнай дабрачыннасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### ВЁСКА: БЕГ УНІЗ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ ЛЕСВІЦЫ

**Праблема запазычанасці па выплаце заработнай платы па-ранейшаму застаецца надзвычай вострай. Асабліва гэта датычыцца вяскоўцаў — крывая нявыплат у галіне зноў папаўзла ўверх.**

Пасля рэалізацыі вырашчанага ўраджаю сітуацыя ў аграпрамысловым комплексе быццам бы стабілізавалася: шэраг рэгіёнаў наогул разлічыліся з працоўнымі — напрыклад, Віцебская вобласць, а ў Брэсцкай завінаваціліся па заробку 7 гаспадарак. Але ўжо праз месяц сітуацыя рэзка змянілася: кастрычніцкая сума нявыплат скокнула ажно на 162,3 мільярда рублёў, склаўшы ўвогуле 183,8 мільярда. Колькасць гаспадарак, якія завінаваціліся па заробку, узрасла ледзь не ў шэсць разоў — з 237 да 1259.

Такім чынам, сума доўгу па выплаце заработнай платы вяскоўцам мае тэндэнцыю расці амаль як снежны камяк. Прычым, як адзначаюць спецыялісты Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, у гэтай сітуацыі вельмі цяжка знайсці асноўную прычыну падобнай з'явы. Вёска ўяўляе сабою зараз цэлы клубок нявырашаных праблем, сярод якіх і так званы цэнавы парытэт, і затаварванне складоў, і складанасці ў правядзенні ўзаемаразлікаў. Карацей кажучы, без прыняцця сапраўды сур'ёзных мераў у адносінах да сельскай гаспадаркі эканамічны калапс галіны стане рэальнасцю.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## Разьбяр з вёскі Вялікая Уса

Калі хто-небудзь з вас пабываў у Уздзенскім ці Дзяржынскім раёнах, то, напэўна, звярнуў увагу на манументальную разьбу па дрэве ў выглядзе арак, скульптур жывёл, арыгінальна выкананыя аўтобусныя прыпынкі. А вось хто гэта зрабіў, мала хто ведае. Пётр Мікалаевіч Глебка, жыхар вёскі Вялікая Уса, заняўся разьбой не выпадкова. Яго дзед славіўся на ўсю акругу як лепшы майстар па вырабу скрыпак, бацька быў выдатным сталяром, і гэты талент перайшоў да Пятра і яго братоў. Энергія і талент у Пятра бязмежныя -- ён мастак і фатограф-прафесіянал, сцэнарыст і аператар, паляўнічы і рыбалоў. Сказана гэта не галаслоўна. Ён -- удзельнік многіх рэспубліканскіх і міжнародных выстаў. Сёння Пётр Глебка працуе над эскізамі афармлення Уздзенскага краязнаўчага музея. Пажадаем жа яму творчых поспехаў у новым 1997 годзе.

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

*НА ЗДЫМКАХ: адна з першых работ П. Глебкі -- арка пры ўездзе ў родную вёску. За работай.*





ПОГЛЯД

## Ад ідэі рэфарміравання эканомікі на рыначных прынцыпах да дзяржаўнага рэгулявання?

**(Заканчэнне. пачатак у №№ 292, 293)**

### Фарміраванне рынку каштоўных папер

У рыначнай эканоміцы, якая функцыянуе нармальна, рынак каштоўных папер дае магчымасць забяспечыць свабоднае перамяшчэнне капіталаў у найбольш эфектыўныя галіны і тым самым павышаць эфектыўнасць функцыянавання ўсёй эканомікі ў цэлым.

Як адзначалася вышэй, у рэспубліцы развіваецца толькі рынак дзяржаўных каштоўных папер, які абслугоўвае фінансавую піраміду, што выстройвае Міністэрства фінансаў РБ. У той жа час у рэспубліцы практычна адсутнічае рынак карпаратыўных каштоўных папер. Яго рэальнае развіццё магчыма толькі шляхам хуткага акцыяніравання дзяржаўных прадпрыемстваў з купляй-продажам іх акцый на другасным рынку каштоўных папер.

Для вырашэння праблемы неплацяжоў у рэспубліцы мэтазгодна развіваць вэксальнае крэдытаванне.

### Стымуляванне прадпрымальніцкай актыўнасці

Пры вырашэнні пытання аб магчымасці і маштабах эканамічнай падтрымкі прыватнага бізнесу ў Рэспубліцы Беларусь неабходна ўлічваць наступныя акалічнасці.

Па-першае, на працягу апошніх гадоў прыватныя прадпрыемствы забяспечвалі хуткае першапачатковае накапленне капіталаў у першую чаргу за кошт ажыццяўлення гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасці.

Па-другое, прыватныя прадпрыемствы вытворчага і навуковага профілю ў большасці выпадкаў не могуць атрымаць патрэбныя ім доўгатэрміновыя пазыкі, таму што прадастаўленне такіх пазык для камерцыйных банкаў рызыкоўнае і пры інфляцыі эканамічна нявыгаднае.

Па-трэцяе, у рэспубліцы адсутнічае рэальная фінансавая падтрымка прыватнага бізнесу.

Па-чацвёртае, садзейнічанне прыватным прадпрыемствам з боку дзяржаўных структур суправаджаецца спецыфічнымі эканамічнымі і палітычнымі інтарэсамі апошніх. Не забываюць аб сваіх інтарэсах і канкрэтныя служачыя кіраўніцкіх структур. Фінансавае субсідзіраванне прыватнага бізнесу мэтазгодна ажыццяўляць перш за ўсё па накірунках дзейнасці, якія патрабуюць значных капітальных укладанняў у інтарэсах народнай гаспадаркі рэспублікі ў цэлым, не забяспечваюць хуткай акупнасці затрат і(ці) звязаны з ажыццяўленнем рызыкоўных капітальных укладанняў і навукова-даследчых распрацовак.

Пры фінансаванні за кошт бюджэту доўгатэрміновых і рызыкоўных накірункаў укладання сродкаў трэба разгледзець магчымасць змянення механізма дзейнасці органа, які садзейнічае такім інвестыцыям на недзяржаўных прадпрыемствах. Прадастаўленне сродкаў мэтазгодна ажыццяўляць не ў выглядзе крэдыту, паколькі загадзя трэба меркаваць, што прыкладна ў адным выпадку з трох грошы могуць быць не вернуты з прычыны выяўленай у далейшым бесперспектыўнасці праекта. Больш прымальным для Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў лічу механізм удзелу ў прыбытках. Адным з варыянтаў такога ўдзелу можа быць арганізацыя дзейнасці фонду як холдынгавай кампаніі, якая ўваходзіць сваімі сродкамі ў статутныя фонды акцыянерных таварыстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю, што ажыццяўляюць доўгатэрміновыя і(ці) рызыкоўныя ўкладанні сродкаў. Пасля атрымання прыбытку такімі фірмамі фонду будзе пералічвацца яго доля, якая кампенсуе страты ад выпадкаў неэфектыўнага ўкладання сродкаў.

### Удасканаленне падатковага рэгулявання

Падатковая сістэма ў Рэспубліцы Беларусь у выніку шматлікіх карэкціровак ператварылася ў чыста фіскальны інструмент. Яна перагружана вялікай колькасцю падатковых плацяжоў, што ўскладняе механізм падаткаабкладання, павялічвае затраты па іх збіранню. Пастаянныя змяненні механізма падаткаабкладання, якія часта ўводзяцца «заднім чыслом», робяць бессэнсоўнай пастаноўку пытання аб якіх-небудзь гарантыях дзяржавы адносна стабільных эканамічных умоў для суб'ектаў гаспадарання.

Каля паловы даходнай часткі бюджэту на 1996 год фарміруецца за кошт розных ускосных падаткаў. Удзельная вага такіх падаткаў нават узрастае. Калі ў мінулым годзе за кошт ПДВ меркавалася фарміраваць 25 працэнтаў даходнай часткі бюджэту, то ў гэтым годзе доля ПДВ вырасла да 27,4. Амаль у тры разы (да 8,5 працэнта) павялічваецца па плану доля мытных пошлін, а 10,8 працэнта даходнай часткі бюджэту будзе сфарміравана за кошт збірання акцызаў.

Як адзначаюць эксперты, перавага ўскосных падаткаў з'яўляецца сведчаннем слабасці эканамічнай сістэмы. У эканоміцы краін, якія развіваюцца нармальна, больш за палову бюджэтных даходаў прыпадае на паступленні ад прамых падаткаў, а падаходны падатак з грамадзян дае да чвэрці бюджэтных паступленняў. У Рэспубліцы Беларусь фізічныя асобы фарміруюць прыкладна 8 працэнтаў бюджэту, а ў Польшчы — каля 30.

Такая дыферэнцыяцыя абумоўлена ў першую чаргу розным узроўнем дабрабыту народаў дзвюх суседніх краін і ступенню шчырасці ў адносінах да сваіх грамадзян урадавых інстанцый.

Вельмі сур'ёзным недахопам ускосных падаткаў з'яўляецца адсутнасць у іх стымулюючай функцыі. Калі прамыя падаткі прымушаюць вытворцаў знаходзіць крыніцы павышэння эфектыўнасці вытворчасці, то рост ставак ускосных падаткаў поўнасцю кампенсуецца павелічэннем кошту прадукцыі і ў канчатковым выніку кладзецца на канчатковага спажыўца — насельніцтва.

Для павышэння эфектыўнасці падатковай сістэмы дзяржава павінна перш за ўсё забяспечыць зніжэнне падатковай нагрузкі і спрасціць падатковую сістэму за кошт адмены малаэфектыўных падаткаў і адлічэнняў у бюджэт і пазабюджэтныя фонды. Павінны быць таксама адменены льготы, якія сёння распаўсюджваюцца толькі на суб'ектаў гаспадарання, дружалюбных выканаўчай уладзе.

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**кандыдат эканамічных навук, загадчык аддзела Інстытута эканомікі АН Беларусі.**

***АД РЭДАКЦЫІ. Друкуючы гэты матэрыял, рэдакцыя не выключае іншых пунктаў погляду на праблемы, звязаныя з эканамічным развіццём рэспублікі, і запрашае, адпаведна, выказаць іх. Пры гэтым, вядома, нельга выключаць таго, што эканамічныя праблемы перад намі па-ранейшаму стаяць сур'ёзныя, звязаны яны ў немалой ступені з маруднасцю ў правядзенні эканамічных рэформаў.***

## АДНЫМ СКАЗАМ

За 10 месяцаў гэтага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года **гандлёвы абарот** павялічыўся ў цэлым па рэспубліцы на 19,7 працэнта, з краінамі СНД — на 25 працэнтаў, з дзяржавамі далёкага замежжа — на 10,4 працэнта.

Пасля аварыі на ЧАЭС усё **большая колькасць дзяцей** нараджаецца з прыроджанымі недахопамі развіцця: паводле даных Міністэрства аховы здароўя, з парокам сэрца нараджаецца 500 дзяцей штогод.

На развіццё **сацыяльнай сферы** ў наступным годзе з даходнай часткі казны пойдзе 55,8 працэнта грошай.

На тэрыторыі былога СССР 95 працэнтаў сем'яў маюць хатнія бібліятэкі, у якіх **сабрана 30 мільярдаў кніг** — у шэсць разоў больш, чым у дзяржаўных і прафсаюзных бібліятэках краін СНД.

У ЗША штодзённа, згодна з данымі Нацыянальнага бюро перапісу насельніцтва Амерыкі, адбываецца ў сярэднім **17 тысяч аўтакатастроф,** у якіх гіне 111 чалавек.

З пачатку года ў Беларусі на дарогах адбылося **6628 транспартных здарэнняў**, у якіх загінула 1570 чалавек.

Да самых **багатых спартсменаў планеты** адносіцца баксёр Майк Тайсан, які ў гэтым годзе за тры баі атрымаў 75 мільёнаў долараў.

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

## ...нанесці прастудзе сустрэчны ўдар

**Хвароба мае непрыемную асаблівасць — заставаць чалавека знянацку. І як бы мы ні рыхтавалі сябе да думкі, что ні адна зіма не можа прайсці для здароўя бясследна, са стану раўнавагі нас здольны вывесці нават адзін наш хлюпаючы нос. А таму, прыслухаўшыся да ўласнага арганізма і выявіўшы там усе сімптомы надыходзячай хваробы, мы імгненна кідаемся да хатняй аптэчкі, каб нанесці прастудзе сустрэчны ўдар. Аднак, калі запасы лекаў не папаўняліся з мінулага сезона, то ажыццявіць гэта бывае не так лёгка. А гэта значыць — самы час ісці ў аптэку. Такое наведванне здароўя наўрад ці прыбавіць, а вось на пэўныя разумныя думкі навядзе...**

Лічыце, вам пашанцавала, калі да тэлевізійнай рэкламы ў вас выпрацаваўся стойкі імунітэт: прынамсі, калі не здароўе, то ўласны кашалёк у гэтым выпадку вам удасца выратаваць. Так, імпартны «Coldrex» па цане 46—56 тыс. руб. вы зможаце замяніць айчынным аналагам — парацэтамолам, ды і кошт яго — 500 рублёў за пачак — задаволіць, верагодна, усіх. Не трэба таксама ўскладаць асаблівыя надзеі на імпартны аспірын, які вылечыць адразу ад усіх хвароб (кошт ад 18 да 26 тыс. рублёў): зніць ліхаманкавы стан і панізіць тэмпературу пад сілу і яго беларускаму «брату», тым больш, што розніца паміж імі ў цане даволі істотная — 20—25 тысяч рублёў. Вось, у прынцыпе, і ўсё: астатнія лекі даступнымі назваць цяжка.

Для таго, каб змагацца з грыпам, прыйдзецца вылажыць 26 тыс. рублёў за процівірусны рэмантадзін або 38—41 тыс. рублёў — за антыгрыпін, які раней каштаваў капейкі. Пазбавіцца ад кашлю будзе таксама нятанна: тусупрэкс і лібексін абыдуцца вам адпаведна ў 15 і 31 тыс. рублёў. Адхаркавальны ж сродак для дарослых і дзяцей «Тусін» — у 39 тыс. рублёў. А вось танны пектусін па цане 2600 рублёў ёсць далёка не ў кожнай аптэцы. Затое выбар лекавых сродкаў ад ангіны наколькі шырокі, настолькі ж і недаступны: кошт хуткадзеючай аэразолі «ORASEPT» — 66 тыс. рублёў, інгаліпту — 69 тыс, каметону — 41 тыс. руб. З насмаркам змагацца крыху танней: кошт традыцыйных нафцізіну, галазаліну і санарыну вагаецца ў межах 10 тыс. рублёў. Праўда, існуюць і больш эфектыўныя лекі, такія як «Nazol» або ментаклар, але і каштуюць яны даражэй — ад 30 да 32 тыс. рублёў. Увогуле можна паспрабаваць вылечыць насмарк гарчычнікамі, толькі трэба мець на ўвазе, што ў апошні час яны крыху змянілі сваю форму, а таму цяпер у аптэках горада трэба шукаць ужо гарчычныя пакеты (8.300—10.500 рублёў).

Ну, і нарэшце (дарэчы, урачы рэкамендуюць менавіта з прафілактыкі і пачынаць барацьбу з хваробай) цэны на вітаміны: дзіцячыя полівітаміны «Jungle» — ад 56 да 78 тыс. рублёў, «TROLL» — 54 тыс. рублёў, комплекс вітамінаў «Мультыбас» для дарослых — 98 тыс. рублёў, рэвіт — 10—14 тыс. рублёў, аскаруцін — 9—11 тыс. рублёў, аскарбінавая кіслата — 14 тыс. рублёў. Увогуле, гледзячы на падобныя лічбы, вывад напрошваецца сам сабой: укамплектаваць хатнюю аптэчку, калі хвароба ўжо пастукалася ў дзверы, практычна немагчыма. Так што лепш або зусім не хварэць, або грунтоўна да яе падрыхтавацца...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

СКРЫТАЯ КАМЕРА

## ПІЎНЫ БАР ПА-БЕЛАРУСКУ,

### або Любоў да піва як стыль жыцця

У любові да піва прызнаюся адразу, не баючыся здацца неарыгінальнай. Сапраўды, нягледзячы на тое, што піва зусім не з'яўляецца нацыянальным напоем, паклоннікаў у яго ў Беларусі ніяк не менш, чым недзе ў туманным Альбіёне. Адзінае, што адрознівае нас ад Англіі, гэта спосаб яго ўжывання. Думаю кожны з нас не раз назіраў за кантынгентам, што акружае піўныя ларкі ці піўбары. Я, пры ўсёй маёй любові да піва, падобныя месцы абмінала. Але цікаўнасць перамагла і я адважылася: на маё шчасце, адна з гаспадынь піўнога кіёска згадзілася даць мне «прытулак» і, такім чынам, я апынулася на другім баку прылаўка...

### Выратаваныя півам...

Мой працоўны дзень пачаўся ў 8 гадзін раніцы. Натоўп мужчын чакаў запаветнага часу адкрыцця ўстановы ўжо даўно.

— Мамо, мамо, ой-ой-ой, адчыняй хутчэй акно! Ратуй!

Нарэшце адкрываецца акенца і куфлі пачынаюць напаўняцца жыватворнай вадкасцю. Выратаваныя «хворыя» задаволена крэкчуць, праглынаючы «лякарства».

Так пачалася мая працоўная раніца ў піўным ларку. Так пачынаецца тут практычна кожны дзень. Прычым па панядзелках «хворых» бывае асабліва шмат.

Недзе праз гадзіну-паўтары людская цікавасць да «крыніцы» паступова змяншаецца, і ў мяне з'яўляецца магчымасць азірнуцца па баках. Маё рабочае месца ўяўляе сабой невялікі ўчэплены вагончык, які дзеліцца «па інтарэсах»: акрамя піўнога ларка тут ёсць таксама віна-гарэлачны аддзел, так што асабліва спрытным удаецца пад піва прапусціць нават чарку гарэлкі. Безумоўна, з гэтым у магазіне спрабуюць змагацца, але вось наведвальнікі прыслухоўваюцца да слабых жанчын далёка не заўсёды. Калі разыдзецца які-небудзь госць, застаецца маліцца аб адным: каб вытрымалі сцены.

### «Мамулька» і «дзеткі»

Самым вялікім адкрыццём у гэты дзень для мяне стала ўсведамленне таго, што вакол «піўнух» утвараецца своеасаблівае брацтва, дзе не толькі ўсе адзін аднаго ведаюць, але і перажываюць адзін за аднаго. Так, напрыклад, прыходзіць наведвальнік з галаўным болем, а Тамара Пятроўна (менавіта так звалі гаспадыню ларка) спачувальна прапаноўвае яму таблетку. Адзін просіць у яе «пачытаць» газету, другі — склеіць разарваную купюру, бо яна ў яго апошняя, трэці — пачаставаць яго півам з соллю. Тамара Пятроўна смяецца: «Ой, колькі я сабе тут «дзяцей» набыла!» Справа ў тым, што большасць наведвальнікаў, звяртаючыся да яе, называюць яе «сонейкам», ці «мамулькай». Прыходзяць маладыя хлопцы і просяць:

— Мамулька, нальеш шкляначку?

— Хлопцы, хочаце да піва сушанай рыбкі? — прапаноўвае яна ў адказ.

— Канешне, дзякуй.

Задаволеныя нечаканай удачай «сыночкі», забраўшы піва, адыходзяць.

### «Горкая гарэлка, але п'юць»

У вольную хвілінку Тамара Пятроўна паспявае расказаць мне вясёлую гісторыю, пачутую ад наведвальніка. Неяк ён папрасіў у прадаўца прадаць яму адзін куфаль. Па прычыне таго, што просьба была выказана на беларускай мове, жанчына яе не зразумела і, разгублена павадзіўшы па кіёску вачыма, вінавата паведаміла: «Запалкі, ведаеце, ёсць. Цыгарэты ёсць. А вось куфля, прабачце, няма». Відаць, з таго часу яна пачала гандляваць не толькі «бокаламі», але і куфлямі з півам таксама.

У другой палове дня жыццё прыметна актывізуецца. Вагончык напаўняецца ўжо крыху «падагрэтымі» наведвальнікамі. Прыслухоўваюся да размоў у зале:

— Ай, ды ну яго, гэтае жыццё! Пайду, нап'юся гарэлкі ды памру...

— Ад гарэлкі яшчэ ніхто ніколі не паміраў.

— Ну так, горкая гарэлка, але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.

Некаторыя «сябры» спрабуюць выпіць піўка ў крэдыт, таму што няма наяўных: тым, хто не злоўжывае даверам — наліваюць, а злосных даўжнікоў просяць адысці ад акенца.

Народ расслабіўся пасля работы і адпачывае. Холадна на вуліцы, а тут — цёпла. Нехта спрабуе філасофстваваць:

— Я свайму сябру на 5 капеек зрабіў, а ён тры бутэлькі купіў. Потым мяне на плечы — і панёс... Ну ці ж гэта па-сяброўску так напаіць?

Па-мойму ўсіх, хто тут знаходзіцца, аб'ядноўвае бясконцая нуда. Яны ўцякаюць ад яе, а ўцячы не могуць. Ды і абстаноўка аптымізму ніколькі не дадае: нягледзячы на ўсе намаганні прадаўцоў і чысціню ў зале, убогасць назіраецца амаль ва ўсім. Вось і сустракаюць людзі Новы год у лістападзе. Малады хлопец на маё пытанне, чаму ён так напіўся, адказаў: «Адзначаў дзень нараджэння новага года».

6 гадзін вечара. Магазін зачыняецца раней чым звычайна на перападлік — напярэдадні чарговае павышэнне цэн на гарэлку. Як заўсёды ў такіх выпадках бывае, у чарзе ніяк не можа знайсціся апошні, за кім займаць ужо нельга. У рэшце рэшт акенца зачыняецца перад носам адвольна выбранага бедака. У зале чуецца незадаволены гул, і ніякія тлумачэнні абстаноўку змякчыць ужо не могуць. «Дрэнна працуеце!» — выкрыкваюць тыя, каму піва не дасталося. Для мяне рабочы дзень ужо скончыўся, але мне крыху сумна: некага мы сёння ўсё ж міжволі пакрыўдзілі... Праўда, апошняе, што я чую, пакідаючы свой пост, грэе мне сэрца: двое сяброў дамаўляюцца сустрэцца заўтра за півам. Значыць, любоў да піва — вышэй за ўсё...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

КРЫМІНАЛ. ЗДАРЭННІ

### Раскрыта заказное забойства

**Работнікі пракуратуры разам з супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Лунінецкага РАУС Брэсцкай вобласці раскрылі заказное забойства, учыненае больш як год таму назад.**

9 снежня гэтага года на нежылым хутары паблізу вёскі Любачын Лунінецкага раёна ў старым калодзежы былі знойдзены трупы двух мужчын. Было ўстаноўлена, што забітыя з'яўляліся жыхарамі г. Лунінца — Віліс Саксон і Аляксандр Меляшкевіч, якія лічыліся без весткі прапаўшымі. У ходзе расследавання ўстаноўлена, што забойства свайго мужа В. Саксона арганізавала яго жонка Надзея Бондарава і сужыцель яе сястры Анатоль Малевіч. За тысячу долараў яны знайшлі і выкаўцу — трыццацігадовага Пятра Емельяновіча, які вучыў падлеткаў у г. Лунінцы майстэрству рукапашнага бою. А паколькі сведкам аказаўся Аляксандр Меляшкевіч, то і ён быў забіты, каб утаіць злачынства. А за гэта Бондаравай давялося прадаць карову, некаторыя іншыя рэчы і заплаціць дадаткова забойцу яшчэ 500 долараў.

Трое ўдзельнікаў злачынства арыштаваны. Ім прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні наўмыснага забойства пры абцяжваючых абставінах, за што адпаведным артыкулам Крымінальнага кодэкса прадугледжваецца ад 8 да 15 гадоў пазбаўлення волі ці пакаранне смерцю.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

### Іконы сплываюць на Захад, смятана — на Усход

**Кантрабанда — паняцце даволі шырокае. Аднак апошнім часам увагай СМІ бязмежна завалодалі «малочныя рэкі», якія пацяклі з нашай рэспублікі на Усход. Ды так, што складваецца ўражанне, што, акрамя таннай смятаны, каштоўнасцей у краіне больш не засталося.**

На шчасце, яны ёсць, і выпадак на чыгуначным вакзале «Брэст—Цэнтральны» — лепшае таму сведчанне. 16 снежня тут, у ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі транспартнай міліцыі ў грамадзяніна Польшчы былі выяўлены пры спробе вывазу за мяжу больш за дзесятак ікон XIX—пачатку XX стагоддзя. Па яго словах, набыў ён іх у маскоўскіх антыкварных магазінах. Аднак, як паведамілі ў прэс-групе ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце, іконы ўяўлялі мастацкую каштоўнасць, а таму былі ў іх уладальніка канфіскаваны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### Жартуюць камп'ютэры

**Рэдакцыя гарадской газеты «Веснік Магілёва» вымушана была нядаўна выпускаць спецыяльны дадатак з праграмай тэлеперадач і прасіць прабачэння ў чытачоў.**

Справа ў тым, што сама газета надрукавала тэлетыдзень... трохтыднёвай даўнасці. Журналісты, як аказалася, тут ні пры чым. «Пажартаваў» друкарскі камп'ютэр.

Машына, бывае, можа выкрасліць чалавека з жыцця. Як гэта здарылася ў Крычаве. Там камп'ютэр пазбавіў пенсіі і розных надбавак да яе грамадзянку Б. І. Сякацкую. Як паведамілі «Магілёўскія ведамасці», электронны «бухгалтар» проста спісаў бабульку з рахунку, дастаткова было Браніславе Іванаўне дажыць да 100 гадоў.

На доўгажыхароў машына не была запраграміравана...

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### Лавіў рыбу — стаў «маржом»

**Пра кур'ёзны выпадак паведамілі «Магілёўскія ведамасці».**

Супрацоўнікі Крычаўскай міжрайінспекцыі рыбааховы і міліцыі праводзілі ў Мсціслаўскім раёне рэйд. Недалёка ад вёскі Падлужжа, на беразе Сожа, заўважылі «Жыгулі». Так і ёсць — браканьеры. Дваіх затрымалі адразу, а двое зрабілі спробу ўцячы. Георгій К., які непасрэдна здабываў рыбу электравудай, кінуўся ў сцюдзёную ваду і паспяхова фарсіраваў Сож. Адчайны ўчынак, аднак, не дазволіў «маржу» пазбегнуць адказнасці. За недазволены сродак рыбнай лоўлі ён аштрафаваны на 500 тысяч рублёў.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### «Калядны падарунак» алімпійскай прызёрцы

**Пазаўчора, вярнуўшыся дадому, у Мінск, з Нарвегіі, дзе праходзіў чарговы этап Кубка свету па біятлону, знакамітая беларуская спартсменка Святлана Парамыгіна і яе муж Валерый Дзядзеркін засталі кватэру з насцеж расчыненымі дзвярыма.**

Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» сама Святлана, іх сям'я (Валерый працуе ў камандзе біятланістаў масажыстам) была на спаборніцтвах з 31 кастрычніка, таму калі дакладна абрабавалі кватэру, невядома. Зладзеі забралі амаль усю тэле- і відэатэхніку, частку адзення і нават не пагрэбавалі зняць у ваннай імпартны змешвальнік вады, на кухні — ачышчальнік, каробку цукерак і пячэння.

Напэўна, шукалі грошы. Аднак іх у кватэры не было. Дзякуй Богу, што не забралі сярэбраны алімпійскі медаль.

Дарэчы, некалькі дзён назад у Мінску абрабавалі машыну не менш вядомай беларускай тэнісісткі Наталлі Зверавай, забраўшы аўтамагнітолу, 20 кампакт-дыскаў і пярэднюю панель.

Гімнаст Віталь Шчэрба пасля такіх «падарункаў» з'ехаў у Амерыку. Крыўдна!

**Алесь СІВЫ.**

